# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 50 (1752) ГОД XXXIV БЕЛАСТОК 10 СНЕЖНЯ 1989 г. ЦАНА 250 зл.




ЗІМОВАЯ ЖУРБА. Фота Я. Целушэцкага

Адзін мінскі журналіст неяк напісаў: „Перабудова — гэта не вынік, гэта працэс". Нельга не пагадзіцца з такой думкай. Хіба што дадаць: „Перабудова — гэта яшчэ і вопыт, падрыхтоўка да жыцця не на галаве, а на нагах".

Шырока нашумелі ва ўсім свеце падзеі ў Мінску 30 кастрычніка мінулага года — гэтак званыя ў народзе „рэпрэсаваныя Дзяды". Не верылася, што такое паўторыцца і сёлета, калі БНФ „Адраджэнне" прызначыў на 30 верасня масавае шэсце па Ленінскім праспекце і мітынг на плошчы Леніна перад домам урада ў Мінску пад агульнай назвай „Чарнобыльскі шлях". А атмасфера згушчалася да мінулагодняй.

Заява на правядзенне мерапрыемства была па ўсіх правілах пададзена ў Вярхоўны Савет БССР яшчэ 19 верасня. Аднак, парушаючы ўсе працэсуальныя ўмовы, гэты орган проста не даў ніякага адказу. Але нельга сказаць, што ён праігнараваў заяву: у спешным парадку 25 верасня быў кінуты кліч, каб правесці праз пяць дзён (пад дату акцыі БНФ) рэспубліканскі суботнік. Цяжка назваць гэтую контракцыю правакацыяй, бо яна таксама была дэкларавана як „збор сродкаў у фонд пацярпеўшых Чарнобыля". Але ўжо тады людзі прадчувалі, што напіша пра гэты дзень якісьці „Вячэрні Мінск": „Пакуль сумленныя працаўнікі даказвалі справамі сваю салідарнасць з ахвярамі Чарнобыля, купка экстрэмістаў, тунеядцаў і крыкуноў займалася балбатнёй на гарадскіх вуліцах".

Як бы тое ні было, а 30 верасня стала днём суботніка і „Чарнобыльскага шляху".

А палове трэцяй таго дня на пляцоўцы ля стыку вуліцы Талбухіна і Ленінскага праспекта ўжо сабраліся некалькі тысяч чалавек. Многія былі яшчэ ў брызентавых вятроўках — адразу з суботніка. Шмат людзей з кінакамерамі і фотаапаратамі — карэспандэнты рэспубліканскіх, маскоўскіх ды замежных газет і агенцтваў. Усе чакалі сігналу да пачатку, захоўваючы парадак.




Інтэлігентна паводзілі сябе і міліцыянеры. Відаць, ім усё ж былі дадзены загад спыніць акцыю: праз мегафон яны ўгаворвалі людзей разысціся з „несанкцыянаванага мерапрыемства", не пачынаць шляху па праспекце, бо гэта небяспечна для дарожнага руху; яны заклікалі „ад імя кіраўніцтва рэспублікі да аўтарытэту прысутных тут народных дэпутатаў СССР", каб тыя адмовіліся ад задуманага; яны, нарэшце, прапанавалі іншы шлях — па ціхіх завулках на стадыён „Дынама".

Але ў тры гадзіны дынамікі БНФ абвясцілі пастраенне, і, сустрэўшы апладысментамі і воклічамі першую калону на чале са старшынёй Сойму БНФ З. Пазняком, народнымі дэпутатамі СССР С. Шушкевічам, М. Ігнатовічам, В. Карніенкам, Алесем Адамовічам, народ рушыў на праспект. Міліцыі заставалася толькі паклапаціцца пра бяспеку руху, што і было найлепшым чынам зроблена.

З эмблемамі рэгіянальных радаў БНФ, нацыянальнымі (беларускімі і ўкраінскімі) сцягамі, харугвамі з выявамі Пагоні, антыбюракратычнымі і жалобнымі (па ахвярах Чарнобыля) транспарантамі працэсія расцягнулася на добрых пару кіламетраў па двух цэнтральных палосах руху шасціпалоснага праспекта. Тлумы выпадковых прахожых згуртоўваліся на ходніках і многія далучаліся да шэсця.

Перасоўныя дынамікі БНФ растлумачвалі мэты акцыі, а таксама мэты і задачы Народнага фронту.

Доўгі шлях кіламетраў у дзесяць пралягаў праз сэрца сталіцы. Людзі з праязджаючых аўтобусаў часам здзіўлена ўглядаліся, а часцей прывітальна махалі рукамі.

Працэсія праходзіць каля рэдакцыі „Вячэрняга Мінска".

(Працяг на стар. 6)

## У службе настаўнікам

Ваяводская педагагічная бібліятэка імя Ул. Спасоўскага ў Беластоку нядаўна ўрачыста, хоць скромна, адсвяткавала 45-ую гадавіну свайго заснавання. Створана яна была як пляцоўка Міністэрства асветы і выхавання ў дапамогу настаўнікам, вучням, студэнтам.

І па сённяшні дзень бібліятэка захавала свой педагагічны профіль і знаходзіцца ў распараджэнні асветных улад. Бібліятэка збірае і камплектуе педагагічную і псіхалагічную літаратуру (каля 50 працэнтаў збору), 35 працэнтаў збору — гэта метадычная і навуковая літаратура. Сённяшняя бібліятэка — гэта Беластоцкі цэнтр, сем аддзелаў і восем філіялаў. Кніжны фонд бібліятэкі — 305 тысяч тамоў, каля 75 тысяч тамоў у год бібліятэкі пазычаюць наведвальнікам на дом. У бібліятэцы настаўнікі могуць знайсці больш трох соцень розных спецыялістычных часопісаў. Гэта багатая база інфармацыі для працаўнікоў асветы і студэнтаў.

Ваяводская педагагічная бібліятэка вядзе таксама і складаную бібліятэку, гэта значыць, збірае кніжны фонд для дапамогі школам і з вялікай прыемнасцю рассылае патрэбныя школам кніжкі.

Для нас, беларусаў, не абыякава і тое, што педагагічная бібліятэка стараецца мець у сваіх зборах літаратуру, патрэбную настаўнікам беларускай мовы і студэнтам-беларусістам. І колькасць гэтай літаратуры ў беластоцкай, гайнаўскай ці бельскай бібліятэках, як сказалі бібліятэкары, будзе залежыць выключна ад таго, ці будуць ахвотныя яе чытаць.

Бібліятэка вядзе шырокае супрацоўніцтва ў абмене літаратуры з бібліятэкамі Беларусі, Масквы, Ленінграда. Асабліва ў апошні час навязалася сяброўства з Гродзенскім абласным інстытутам удасканальвання настаўнікаў. Нядаўна было падпісана пагадненне аб супрацоўніцтве, у якім гаворыцца аб тым, што Педагагічная бібліятэка з Беластока будзе рэгулярна бясплатна прысылаць гродзенцам па пяць экземпляраў усіх выдавецтваў з галіны методыкі навучання польскай мовы, а гродзенцы будуць прысылаць на тых самых умовах свае выдавец-

(Працяг на стар. 4)




# БЕЛАРУСКАЯ ПАРТЫЯ

**ЧАСТКА VI**

Вядомая гістарычная асцярожнасць беларуса. Прычын гэтай асцярожнасці было вельмі многа. Паперка, пасведчанне, подпіс, білет не раз выкарыстоўваліся супраць беларусаў. І таму сёння прыцягнуць беларуса да нейкай ідэі ці партыі вельмі цяжка. Здаецца мне, што намнога цяжэй, чым калісьці. Чаму намнога цяжэй? А таму, што паявілася новая і зусім нечаканая прычына. Калісьці беларусы (маю на ўвазе перш за ўсё міжваенны перыяд) гарнуліся да „Грамады“, КПЗБ, заходнебеларускага камсамола, да хрысціянскіх ці іншых рухаў. Гарнуліся галоўным чынам таму, што жылі ў бядзе, у прыніжэнні, што дзяржава душыла іх падаткамі, шарваркамі, штрафамі, што іх дзеці не мелі доступу да школ, да ўстаноў, да дзяржаўных функцый. Уступаючы ў рады такой ці іншай арганізацыі, беларусы лічылі, што пры дапамозе грамады, згуртавання, аб'яднання, партыі зменяць свой побыт, што іх жыццё станецца лепшым, што пры дапамозе іншых ліквідуюць яны сваю бяду. Сёння маем мы дачыненне з зусім іншай сітуацыяй. Бяда прапала з сялянскага жыцця. Значыць, адвечны заклік, які прыводзіў людзей у партыю: ідзі разам з намі і мы супольна ліквідуем цемру, непісьменнасць, бяду, гарантуем табе і тваёй сям'і лячэнне, дамо табе зямлю і працу — адпадае. Адпадае таму, што ўсё гэта беларус сёння ўжо мае. І калі да чагосьці імкнецца, дык перш за ўсё да спакойнага жыцця. А вядома, што ніякая партыя спакойнага жыцця не прапануе. Наадварот, прапануе трывогі, імкненні, самаахвярнасць, часовае і сардэчнае заангажаванне. А колькі ж знойдзем людзей, гатовых да гэтага? Баюся, што не многа. Адзіны ратунак бачу ў многіх партыйных профілях, у разнародных ідэйных канцэпцыях, бо вядома, што селянін, інтэлігент, рабочы маюць свой уласны пункт гледжання на жыццё.

Думка аб тым, што нас нямнога, і таму хопіць нам адной партыі, зводзіцца да ідэі: вялікая свабода для вялікіх, малая свабода для малых, — і заключае ў сабе самазнішчальную страшную сілу, самазнішчальную для рэчаіснасці і ў канцы канцоў для самой сябе таксама. Лёсы так званых марксісцкіх партый у краінах народных дэмакратый сведчаць аб гэтым вельмі яскрава. Па сутнасці ўсе партыі такога тыпу ўзнікаюць у атмасферы энтузіязму і добраахвотнасці, а зыходзяць з гістарычнай сцэны ў атмасферы песімізму і прымусу. Хтосьці можа сказаць, што мы не марксісцкая партыя і такога тыпу перспектыва нам не пагражае. Справа ў тым, што пагражае ўсім, бо зло заключаецца не ў марксісцкасці ці антымарксісцкасці, а ў выключнасці адзінай партыі незалежна ад таго, як яна сябе называе і пад якім штандарам ходзіць.

Можа хтосьці сказаць, што ўсякія намёкі на сталінізм у выпадку стварэння толькі адной беларускай партыі ў Польшчы не на месцы, бо ствараюць яе маладыя людзі, якія не толькі не абцяжараны сталінізмам, але даспявалі як людзі ў атмасферы барацьбы са сталінізмам. І будзе гэта поўная праўда. А калі так, дык трэба зрабіць тым болей усё, каб іх дзейнасці ў будучым не пагражала сталінская небяспека. Як жа глыбокую думку ў часе першага пасяджэння польскага Сената выказаў беспартыйны сенатар Стаклоса: „Усе мы пакрысе дзеці Сталіна“. У гэтых словах заключаецца глыбокая праўда. Кожны з нас у адносінах да самога сябе і ў адносінах да іншых павінен прыглядацца і, заўважыўшы страшны прывід „святых ідэй айца народаў“, павінен сігналіць і біць у званы трывогі: увага, за народам стаіць сволач!!! Маем сёння гістарычны шанц, і ён — у арганізацыйным плюралізме. Давайце будзем вырывацца са сталінскага зманлівага нявольніцкага кола, у якім, на думку некаторых, было добра, бо ўсе нібыта думалі аднолькава і адны думалі за другіх. Не выручайма мы сябе ўзаемна ў думанні над супольным, як сказаў Норвід, абавязкам — Радзімай. І калі б нават за плюралізм трэба было заплаціць спрэчкамі і нязгодай, дык плаціць варта, бо толькі ён адкрывае перспектыву перад чалавекам як асобай і ўсім грамадствам. А баяцца многіх беларускіх партыяў — гэта абазначае баяцца беларусаў, абазначае бязвер'е не толькі ў іншых, але і ў самога сябе.

Застаецца адкрытай справа кіраўніцтва беларускімі палітычнымі групоўкамі. Я, як ужо было сказана, з'яўляюся прыхільнікам левай партыі, другія аддадуць перавагу іншым групоўкам. Думаю, што будучыня гэтых груповак будзе загарантавана тады, калі стануць на іх чале маладыя людзі, а, наколькі мне вядома, Беларускі грамадскі камітэт „Грамада“ ствараюць маладыя. І вельмі добра. Я, з увагі на свой узрост, не ўяўляю, каб хацеў і мог адыгрываць вядучую ролю ў партыйным беларускім руху. Хопіць з мяне і БГКТ, якое ў суме служыць тым самым мэтам, якім будуць служыць палітычныя партыі. А для маладых магчымасць стварэння беларускіх партый хай будзе і шырокай вадой і высокімі ветразямі, над якой і пад якімі ім плысці і плысці ў свабодную будучыню Беларусі.

**Алесь Барскі**

# ДЭМАКРАТЫЯ ПА-ГАЙНАЎСКУ

**Далей няма спакою ў Гайнаўцы. Працаўнічы канфлікт у Гайнаўскім доме культуры (аб ім мы пісалі ў папярэднім нумары „Нівы“) выходзіць усё на новыя кругі. Публікацыя артыкула „Spór z dyrektorem czy Białorusinem?“ у „Gazecie Wyborczej“ (нумар 147, 2-3-4 снежня 1989) учыніла з пратэсту салідарнікаў у ГДК супроць дырэктара Мікалая Бушко справу агульнакраёвую. Аўтар гэтага артыкула Ян Квасоўскі з Беластока прадстаўляе канфлікт у ГДК і звязаныя з ім абставіны тэндэнцыйна і хлусліва. Наколькі мне вядома, дырэктар Мікалай Бушко напісаў у „Выбарчую газету“ рэпліку, у якой, абараняючы сваё імя, указвае на яўную хлусню і падтасоўку фактаў з мэтаю вынесці публічны прысуд яму яшчэ перад вырашэннем канфлікту начальнікам горада Гайнаўкі Ядвігай Рудзінскай-Патэюк. Застаецца спадзявацца, што рэпліка будзе апублікавана, што салідарніцкі бок не займеў манаполіі на праўду і захоча прыслухацца да голасу абвінавачанага.**

У чацвер (30 лістапада) у вячэрняй праграме тэлебачання „Панарама дня“ выступіла Міністр культуры і мастацтва Ізабела Цывінская, заявіўшы, што едзе на Беласточчыну, паколькі вядома ёй, што ў Гайнаўцы ўзнік канфлікт паміж палякамі і беларусамі, і яна хоча паспрыяць яго палагоджанню. Заяўленні салідарнікаў, што канфлікт не мае нацыянальнай асновы, займелі якраз адваротны вынік. Гэта тыповы сацыялагічны эфект: чым даўжэй і гучней ты б'ешся ў грудзі і запэўніваеш, што маеш рацыю, тым больш выклікаеш недавер да сябе. Пані міністр спаткалася з працаўнікамі ГДК у суботу (2 снежня) а 18 гадзіне.

Ад панядзелка да пятніцы працавала спецыяльная камісія, створаная начальнікам Гайнаўкі дзеля разгляду закідаў, прадстаўленых дырэктару Бушко групай салідарнікаў у ГДК. Камісія закончыла працу ў пятніцу і прадставіла свае высновы пані Я. Рудзінскай-Патэюк. Рашэнне цяпер за ёю. Адчуваючы, што канфлікт у ГДК можа выклікаць абвастрэнне міжнацыянальных суадносін палякаў і беларусаў на Беласточчыне, двойчы сустракаліся прадстаўнікі Беларускага грамадскага камітэта „Грамада“ і Рады грамадзянскіх ініцыятываў пры беластоцкай „Салідарнасці“ з мэтаю знайсці вырашэнне шляхам кампрамісу. У супольным камюніке, апублікаваным у „Газеце Вспулчэснай“ (29 лістапада), гаворыцца, што „Грамада“ і вышэй згаданая Рада звернуцца да ўдзельнікаў канфлікту з прапановай кампрамісных вырашэнняў. Наколькі мне вядома, не ўдалося знайсці такога вырашэння, якое задавальняла б канфліктуючыя бакі і астатніх працаўнікоў ГДК, якія не прымаюць удзелу ў салідарніцкім пратэсце (іх у ГДК большасць). Уражанне такое, што салідарніцкі бок урэшце зразумеў, якія грамадскія паслядоўнасці займеў гэты канфлікт, і намагаецца знайсці „ганаровае выйсце“ з яго. Якое мае быць тое „ганаровае выйсце“, ніхто не змог у пятніцу, перад візітам пані міністр, дакладна сабе ўявіць.

Пані міністр заявіла на сустрэчы, што сама не прагне ўмешвацца ў канфлікт і звяртаецца да канфліктуючых бакоў з просьбай закончыць яго кампрамісным пагадненнем. Факт грамадскага напружання на Беласточчыне пані Ізабела Цывінская ацаніла як вельмі нядобры ў сучаснай сітуацыі для ўрада Тадэвуша Мазавецкага. Нельга нам дапускаць да выспявання і пашырання міжнацыянальных канфліктаў, гаварыла далей пані міністр. Магчыма, добра сталася, што гэты нарыў канфлікту лопнуў якраз цяпер, бо сітуацыя можа яшчэ ачысціцца.

Пані Эва Коркус, завадатарка пратэсту ў ГДК, заявіла, што канфлікт мае ўнутраны, працаўнічы характар і намёкам дала зразумець, што „Салідарнасць“ не з'яўляецца бокам у ніякім міжнацыянальным канфлікце.

Пан Гмітэр з тэрытарыяльнай камісіі „Салідарнасці“ ў Гайнаўцы сцвярджаў, што грамадскае хваляванне вакол канфлікту ў ГДК абсалютна не было выкліканае салідарніцкім бокам, што гэтаму спрычынілася нейкая іншая грамадская сіла. Хто меўся на ўвазе, пан Гмітэр не сказаў.

Сакратар ГП БГКТ і адначасова прадстаўнік ініцыятыўнай групы „Грамады“ Віктар Стахвюк у сваім выказванні абасноваў заангажаванасць вышэй згаданых дзвюх беларускіх сілаў у вырашэнне гэтага канфлікту. Па-першае, сцвердзіў В. Стахвюк, Мікалай Бушко з'яўляецца членам Прэзідыума ГП БГКТ, таму не трэба здзіўляцца, што БГКТ зацікаўлена абаронаю свайго прадстаўніка. На гэта БГКТ, як грамадская арганізацыя, мае права. Па-другое, ні БГКТ, ні „Грамада“ не могуць заплюшчваць вочы на тое, як рэагуюць на канфлікт у ГДК беларусы Беласточчыны. Як ні ацэньваць прычыны канфлікту ў Гайнаўцы, беларусы на Беласточчыне ўспрыймаюць яго ў першую чаргу як спробу атакі „Салідарнасці“ на беларуса, віднага прадстаўніка беларускага грамадска-культурнага руху ў Польшчы. Гэта выклікае грамадскае хваляванне і трывогу. Па-трэцяе, БГКТ і „Грамада“ прагнуць, каб усялякія канфліктныя сітуацыі вырашаліся на Беласточчыне згодна з правам, а не бяспраўем. Забастовачнае становішча ў ГДК Віктар Стахвюк акрэсліў як бяспраўнае, паколькі пратэст „Салідарнасці“ ў ГДК распачаўся без папярэджання, без ранейшай спробы пашукаць болей памяркоўнага вырашэння канфлікту. Удзел у працах спецыяльнай камісіі прадстаўнікоў забастовачнага камітэта і непрысутнасць у ім хоць аднаго прадстаўніка дырэктара Бушко таксама належыць ацэньваць як факт яўна недэмакратычны. Прэсавыя публікацыі наконт канфлікту ў ГДК вытварылі атмасферу псіхічнага тэрору. „Грамада“ і БГКТ не хочуць дапус-

(Працяг на стар. 5)

# ЗОРКА

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



Танцоры з Чаромхі выступілі ў канцэрце з нагоды адкрыцця культурна-асветнага сёзона ў Беластоку ў будынку Беларускага таварыства. Фота Яна Максімюка.

Мікола Корзун




Надвор'е было марознае, і лыжы лёгка слізгалі па першым снезе. Едучы праз кусты, мы з Барысам раптам убачылі невялікае дрэўца, а на ім — чырвоныя гронкі ягад.

— Рабінка! — радасна ўсклікнуў Барыс, і мы навыперадкі памчаліся да дрэўца.

Пад'ехалі, сарвалі па некальκі іскрыстых ягад, накаштавалі.

— Халодныя! — зморычыўся Барыс.

— Затое смачныя, — адказаў я, жуючы салодкія, з церпкім кіславатым смакам гарошынкі.

Паласаваўшыся рабінамі, я спытаў у сябра, што будзем рабіць з астатнімі. Мне хацелася наламаць чым пабольш гронак і завезці дадому.

Барыс падумаў і сказаў:

— Няхай вісяць на дрэўцы. Зіма ж наперадзе, і мы яшчэ не раз прыедзем да рабінкі ў госці. Ягады не сапсуюцца, яны ж замарожаныя. Давай лепей паедзем катацца з гары.

(Працяг на стар. 10)

## РЫХТУЕМСЯ ДА ЁЛКІ

Ганна Іванова

*(Выходзіць вядучы)*

ВЯДУЧЫ
Маня!
Зоська!
Ясь!
Андрэйка!
Ціт!
Міколка!
Апанас!
Беларуская батлейка
запрашае ў госці вас!
Вас
і вашых дружбакоў.
Э-гэ-гэй!
З усіх бакоў
сюды, дзятва!!!
Раз...
Два...
Тры!
Малайцы
сябры!
Ды
ці можна
гасцям дагадзіць,
Як няма на што пасадзіць?
Так кажу я ці не так?
Выручай мяне,
мастак!
Ого!
Гэта лава дык лава!
Гасцям — чэсць!
Мастаку — слава!
Ну вось,
хлапчукі і дзяўчынкі,
сядзіце вы каля скрынкі,
а гэта скрыначка-хата
заселена дужа багата
лялькамі
простымі
і знакамітымі,
убрана
кветкамі размаітымі,
зоркамі саламянымі,
пеўнікамі маляванымі.
Люба глядзець!
Прыгажосць!
Вось гэта — батлейка і ёсць
з усімі аздобамі-ўкрасамі,
цудамі і выкрунтасамі!
З даўняга веку, дзеці,
батлейка вандруе па свеце —
па народах,
па краінах,
па дарогах,
па сцяжынах.
Дзеля радасці і смеху.
На навуку!
На пацеху!
Каб добрае спела!
Каб злое гібела!

А зараз бярэмся за справу:
глядзім прадстаўленне
пра хлопчыка Саву!




*(Заслона ў батлейцы адкрываецца. Выходзіць Каза. Вітаецца.)*
КАЗА
Людзі добрыя
Вітаю!
Я ў вас вось што запытаю.
вы скажыце,
госці,
мне:
ці вам добра тут
ці не?
Ці вы будзеце ціха сядзець
і батлеечку сумна глядзець?
Ці вы будзеце рагатаць,
у ладкі пляскаць —
артыстаў вітаць?
Ну — тады
чаго чакаеце?
Чаму артыстаў не вітаеце?
ВЯДУЧЫ
Чытачы і слухачы!
Трэба тут дапамагчы!
Кожны хай са шчырай ласкаю
ў ладкі весела паплясквае!
КАЗА
Малайцы!
Музыка, грай!
Прадстаўленне адкрывай!
*(Уваходзіць Жытнёвы Каласок)*
ЖЫТНЁВЫ КАЛАСОК
Добры дзень,
шаноўны люд!
Каласок Жытнёвы
тут як тут!
Бачу народу багата.
Пэўна ж, тут нейкае свята?
А ўбор мой зрэбны,
не новы.
А хлеб мой просты —
жытнёвы!
КАЗА
Дык без хлеба ж
і хата не хата,
і свята не свята,
і поле не поле,
і доля не доля!
ЖЫТНЁВЫ КАЛАСОК
Дзеці!
Ці ўсе вы як трэба
ставіцеся да хлеба?
Акрайчыкамі
ў футбол не гуляеце?
Лустачак не выкідаеце?
КАЗА
Што ты! Бельскія дзеці
лепшыя ў цэлым свеце!
*(Назву мясцовасці трэба змяніць на сваю).*
ЖЫТНЁВЫ КАЛАСОК
Ну —
я спытаў для парадку...
А хто адгадае загадку,
хто скажа,
хто знае:
ШТО ў нашым краі,
як і мяне паважаюць,
хлебам другім называюць?..
ВЯДУЧЫ
На падмогу, чытачы
слухачы і гледачы!
Здагадайся — не маўчы.
ЖЫТНЁВЫ КАЛАСОК
Правільна!
Гэта бульбінка-беларусачка —
пекная паненачка,
шэрая сукеначка,
зялёная хустачка!
*(З'яўляецца Бульбінка)*
БУЛЬБІНКА
Дзень добры,
мае харошыя!
А якія вы ўсе прыгожыя!
А я такая простая,
зрэбная,
нікому тут не патрэбная..
ЖЫТНЁВЫ КАЛАСОК
Ты, сястрыца,
кінь журыцца!
Дарагія гледачы!
Чытачы і слухачы!
Трэба тут дапамагчы:
хай
той запляскае ў ладкі,
хто любіць з бульбы аладкі,
за ім па парадку —
хто любіць зразы і бабку,
хто
клёцкі,
бульбяную кашу,
салянікі.
А потым — хто любіць дранікі!!!

Раз-два-тры-чатыры-пяць!
Будзем Бульбінку вітаць!

(Працяг на стар. 10)

# БАТЛЕЙКА ЗАПРАШАЕ

(Працяг са стар. 9)

Дзякуй вам,
хлопчыкі і дзяўчынкі!
Якія вы ўсе малайчынкі!

БУЛЬБІНКА
А мы вам пакажам хлапчыну,
хлапчыну не малайчыну.
Гэта Саўка Савацей —
язык без касцей.

ЖЫТНЁВЫ КАЛАСОК
Саўка,
адгукніся!
Саўка,
пакажыся!

БУЛЬБІНКА
Дзілім-дзілім-баў!
Саўка прапаў!
Мы яго гукалі!
Мы яго шукалі!
Мы бегалі на рэчку!
*(З'яўляецца Саўка — хлопчык гадоў сямі.)*

КАЗА *(да Саўкі)*
А дзе ты хадзіў?!

САЎКА *(пагладжвае свой жывот)*
У суседавых парэчках
Заблудзіў!

БУЛЬБІНКА
Саўка-Саўка!
Які ты не паслухмяны!

САЎКА
Я —
рахманы,
паслухмяны,
працавіты,
адмысловы!
Я такі...
Я...
Адным словам!

КАЗА
Як пасадзяць Саўку
раніцой на лаўку —
дык ён
хваліццахваліцца —
хваліццахваліцца!
Да вечара хваліцца!
Аж пакуль не зваліцца!

САЎКА
Я ніколі не звалюся,
бо ніколі не хвалюся!

БУЛЬБІНКА
Кім ты будзеш,
кім ты станеш,
ты ж і хвалішся,
і маніш?!

САЎКА
Вы іх не слухайце, дзеці.
Праўдзівей мяне
няма ў свеце!
*(Выбягае Ліса з клункам. Саўка хапае яе за хвост.)*
А манюку з манюк
я затрымаў —
за рыжы хвост спаймаў!

ЖЫТНЁВЫ КАЛАСОК
Дзень добры,
шаноўная кумачка!

ЛІСА
Вось гэта — узор этыкету!
Вось як трэба вітаць кабету!

ЖЫТНЁВЫ КАЛАСОК *(з'едліва)*
Лісачка,
кумачка!
Дзе наша курачка?

ЛІСА
Не знаю!
Не бачыла!
Не сустракала!
*(Нечакана лісчын клунак развязваецца. З яго ляціць курынае пер'е.)*

КАЗА
Ах ты, манюка!
А што тут за пёркі?!

ЛІСА
Дык то ж я
купіла!
На падушачкі
для Саўкі
і Андрушачкі,
Саўкавага брата,
каб падарыць на свята!
*(Вырываецца. Уцякае, след хвастом замятае.)*

САЎКА
Бачылі!
А я — праўдзівы,
я — рахманы,
працавіты,
паслухмяны!
Я — не манюка з манюк!

ЖЫТНЁВЫ КАЛАСОК
А ці паслухмяны ты ўнук?

Працяг у наступным нумары

# РАБІНКА

(Працяг са стар. 9)

Я згадзіўся з ім. Мы сарвалі па гронцы і рушылі на Барсукоўшчыну.

Мінула некалькі дзён, і мы зноў наведалі рабінку. І вось дзіва! На дрэўцы амаль не было ягадак.

— От табе і на! — расчаравана сказаў Барыс.

— Хто іх абабраў? Можа...

Барыс не паспеў дагаварыць. У гэты момант на дрэўца селі тры птушкі. Гэта былі круглыя, як мячыкі, снегіры. Адзін, з чырвонай грудкай, пачаў чысціць аб галінку дзюбу, а два, шызыя, скакалі ў галлі і здзёўбвалі дзе-нідзе ўцалелыя ягады.

— Дык вось хто абабраў нашу рабінку! — усклікнуў Барыс і паглядзеў на мяне. — А цяпер прыляцелі канчаць апошнія.

— Хай ядуць на здароўе. Зіма для іх — не цётка, — адказаў я, любуючыся снегірамі.

— Ага, праўда, — паспагадаў птушкам Барыс. І тут жа з запалам прапанаваў: Міколка, давай зробім ім кармушку. Яны ж у нас госці з поўначы.

Праз дзень на рабінцы вісела зробленая нашымі рукамі кармушка. Корм птушкам прынасілі сюды не толькі мы, але і ўсе вучні нашага чацвертага класа.

# Вясёлы куточак

* * *

Пятрок пад канец навучальнага года прыходзіць са школы і кажа:

— Тата, магу цябе пацешыць: будзеш мець грошы. Не трэба будзе мне на другі год купляць новыя падручнікі.

* * *

— Як ты мог усім распавядаць, што я дурнаваты?!

— А я ж не ведаў, што гэта твая таямніца!

* * *

— Я лічу несправядлівым, што вы паставілі мне двойку, — кажа вучань да настаўніка.

— Я так сама думаю, — згаджаецца настаўнік. — Але не было нават найменшай магчымасці, каб табе гэтую двойку не паставіць.

* * *

Заклаліся два хлопцы на сто злотых, хто з іх найлепш ілгаць можа.

— Я ўчора выскачыў з акна дзесяціпавярховага дома і пацалеў, — сказаў адзін.

Другі хлопец узяў закладзеныя сто злотых і сказаў:

— Праўда. Я бачыў, як ты ляцеў.

* * *

Вучні збіраюцца ў падарожжа.

Настаўнік пытаецца ў іх:

— Што вы зробіце, калі вас у дарозе напаткае навальніца?

— Пападаем на зямлю, — сказаў Коля.

— Навошта? — дзівіцца настаўнік.

— Няхай маланка думае, што мы ўжо мёртвыя.

* * *

На ўроку геаграфіі.

— Чым характарызуюцца краіны, дзе часта ідзе дождж?

Янка задумаўся, а потым кажа:

— Там людзі заўсёды ходзяць з парасонамі.

# ПАЗНАЁМІМСЯ

* * *

БССР, 222310, Мінская вобл., г. Маладзечна, вул. Б. Хмяльніцкага, 3, кв. 60. Харытон Лене (12 гадоў).

* * *

БССР, 225532, Брэсцкая вобл., Столінскі раён, с. Бярэжнае, вул. Камарова, 19. Абуховіч Люда (13 гадоў), вул. Камарова 39, Грыка Таня (11 гадоў).

* * *

СССР, 315300, г. Кременчуг, Полтавской обл., ул. Первомайская, 44, кв. 60. Кравченко Наташа (5 клас).

* * *

СССР, 279200, Молдавия, г. Бельцы, ул. Мицкевича, 17. Чебан Инна.

* * *

БССР, 220049, г. Мінск, вул. Кнорына, 106, кв. 41. Бялько Лена. 5 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 8, кв. 102. Анфіса Карпейчык. 4 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Р. Люксембург, 90-А, кв. 20. Каця Скорык. 4 клас.

# КАПУСТА І НАСЕННЕ

**Кітайская казка**

Пайшлі белае зайчаня і шэрае зайчаня да старога казла ў госці. І падарыў ім казёл капусту, якую сам пасадзіў і вырасціў.

Узяло шэрае зайчаня капусту, сказала:

— Дзякуй, дзядзечка казёл!

І пайшло задаволенае дадому.

А белае зайчаня кажа:

— Дзядзечка казёл, лепш дай мне насенне. Я хачу сам вырасціць капусту.

Даў яму стары казёл насенне капусты.

Вярнулася белае зайчаня дадому, зямлю ўзрыхліла ды насенне пасеяла.

Працуе белае зайчаня ў агародзе: кожны дзень капусту вадой палівае, зямлю ўгнойвае, пустазелле вырывае ды шкодных кузурак ловіць. І пачала ў яго расці капуста хутка і добра.

А шэрае зайчаня цэлымі днямі палежвае сабе. Прагаладаецца — з'есць капусту, якую даў яму казёл. А калі скончыцца ў яго капуста, то ідзе да казла яшчэ выпрошваць.

Вырасла ў белага зайчаняці капуста. Узяло яно каромысла і панесла два кошыкі капусты казлу.

А тут і шэрае зайчаня зноў прыйшло да казла па капусту.

І сустрэліся белае зайчаня і шэрае зайчаня каля самых варот хаты старога казла. І стала шэраму зайчаняці вельмі сорамна, што яно такое лянівае.

**Пераклаў на беларускую мову Міхась Пазнякоў**

# А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А



Спалучы лікі ад 1 да 20. Што выйшла? Размалюй карцінку каляровымі алоўкамі.



„Ніва" 10.XII.1989 г. Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1. „Зорка"

# КРЫЖАВАНКА

**Упоперак:** 1) круг з песнямі і танцамі, 7) ён „не стане, не скарыцца перад нягодай ніколі і нідзе“, 8) месца вечнага спачынку, 9) цяпер канчаецца, 10) месца, дзе раней было пасяленне, 11) лісток паперы, 15) на плячах у турыста, 19) дзеянне, звязанае з аплаткай, 20) вядомы паэт-белавежац, 21) чорныя ягады, 22) сярод літаратараў-белавежцаў ёсць Мікалай і Уладзімір, 23) каталікі дзеляцца ёю каля ёлкі.

**Уніз:** 1) службовая асоба, надзеленая спецыяльнымі паўнамоцтвамі, 2) форма месяца або булачкі, 3) круглы камяк, напрыклад, з цеста, 4) чалавек, які паводзіць сябе інакш, чым іншыя, 5) змагаецца кулакамі, 6) сваяк цыбулі, 12) найвышэйшае званне ў флоце, 13) механізаваны салдат, 14) вольха іначай, 16) валодае, 17) скрыта размешчаны атрад для нечаканага нападу, 18) мянушка.

„ядань“

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны дзве кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на міні-крыжаванку (называраг) з № 43:**

**Упоперак:** кораб, ратаtар, куб. **Уніз:** грот, мор, кут, бар, апал, абарок, азноб.

**Адказ на крыжаванку з № 44:**

**Упоперак:** аванс, смала, карак, пара, рытм, рэпа, ярмо, карта, абзац, калым, ражон, аранжыроўка, трактар, манеўры, Алёна, Саўка, табар.

**Уніз:** асада, скарга, балада, халява, сарока, актэт, кража, туман, бардо, слова, руксак, жарало, рэмень, клёпка, праца, брага.

Кніжныя ўзнагароды выйгралі: сям'я Быль з Гродна і Казімір Харко з Жодзішак.

# НІЎКА

— *Думаю, што ён хіба ўва мне закахаўся. Заўсёды мяне загрымоўвае, калі праязджаю побач яго...*

# АФАРЫЗМЫ

Ці можаце сабе ўявіць, што наш час будзе называцца „даўнім добрым часам“?

*

Можна думаць. Нельга толькі думаць інакш.

*

Ідэолагі дыскусіруюць маналогамі.

*

Як захаваць мір, астаецца, на жаль, ваеннай тайнай.

*

Ёсць людзі, якія так усхваляюць сваю краіну, як бы хацелі яе прадаць.

*

Здаровае грамадства ацерпіць і хворую крытыку.

*

Я супраць абмежаванага суверэнітэта, я за інтэлігентны суверэнітэт.

**Жарко Петан**

## МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на такі адрас:

Bank Spółdzielczy w Hajnówce Nr Konta 905217-1922-132-3.

У замежнай валюце: Narodowy Bank Polski i Oddział w Białymstoku nr rachunku walutowego 5021-24325-152-6787, nr rachunku walutowego w rublach 5021-24325-151-6201.

Жыхары БССР грашовыя ахвяраванні могуць уплачваць на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Мінска.

Спіс чарговых ахвяравальнікаў:

Дабраахвотныя ўзносы жыхароў вёскі Пашкоўшчына, гміна Орля:

2918. Мікалай Сойка (сын Мікалая) — 500 зл.
2919. Дзмітры Мураўка — 500 зл.
2920. Васіль Грайко — 500 зл.
2921. Сяргей Мураўка — 1000 зл.
2922. Уладзімір Домб — 1000 зл.
2923. Уладзімір Глінка — 500 зл.
2924. Рыгор Кулік — 500 зл.
2925. Уладзімір Міранчук — 500 зл.
2926. Сяргей Кулік — 500 зл.
2927. Ольга і Васіль Кулікі — 1000 зл.
2928. Іван Стасюк — 500 зл.
2929. Іван Кулік — 500 зл.
2930. Уладзімір Сасна — 200 зл.
2931. Мікалай Куптэль — 200 зл.
2932. Аляксей Кулік — 500 зл.
2933. Андрэй Кулік — 200 зл.
2934. Мікалай Цэтра — 500 зл.
2935. Міхал Адынец — 500 зл.

Дзякуем.

Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej i Ruchu Rewolucyjnego. 17-200 Hajnówka, ul. Wyzwolenia 6. Тэлефон 28-89.

Яўген Гучок

# ПРЫПЕЎКІ

Не шукаю барышы,
Не здымаю плеўкі;
Для сяброў — дзеля душы
Я пяю прыпеўкі.

* * *

Беларус, які да млосці
Беларусам быць не хоча,
Ён усё — ад маці хроснай
І да роднае — растопча.

* * *

Кожны тут прагнуча гусь,
Кожна кача скрача,
Што ў Вандэю Беларусь
Варта перайначыць.

* * *

Дзе на выбарчым участку
Кандыдат ўсяго адзін,
Там не выбары, а пастка,
Не саветы там, а блін.


# Ніва

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга (адказны сакратар), Яніна Чэрнякевіч (рэдактар „Зоркі“).

„Niwa“

ul. Wesołowskiego 1

15-950 Białystok, skr. poczt. 140

tel. 232-41, 210-32.

Wydawca: Białostockie Wydawnictwo Prasowe 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

Warunki prenumeraty pocztowej na 1990 r.:

1. Prenumeratę pocztową (z dostawą do domu) zamawiać mogą mieszkańcy wsi, osad oraz miasteczek w których nie ma Oddziałów RSW a także osoby niepełnosprawne, bez względu na miejsce zamieszkania.
2. Wpłaty na tę prenumeratę przyjmują urzędy pocztowe oraz doręczyciele.
3. Podstawowym okresem przyjmowania prenumeraty pocztowej jest kwartał.
4. Termin wpłat na prenumeratę pocztową na II kwartał 1990 r. upływa 20 lutego 1990 r. włącznie.
5. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 3.250 zł + 1200 zł za doręczanie.
6. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne Wpłaty przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch“. Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw. Warszawa, ul. Towarowa 28 Nr. konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

Mieszkańcy miast mogą zamawiać prenumeratę indywidualną poprzez Oddziały RSW w następujących formach:

- prenumerata instytucjonalna (w zakładach pracy).
- rezerwacja w tzw. teczkach (we wszystkich kioskach).
- prenumerata własna RSW (w wytypowanych kioskach).

Zam. 1892/89. Nakład 5.800. T-2.